


магілёўскі

# Выбар

№ 13 Жнівень 2012 г.

Абласная Дэмакратычная Трыбуна


## ВЫБАРЫ ЯК ПАРТЫЙНАЯ ЗАДАЧА І ЯК УЛАСНАЯ ПРАЦА ДУШЫ І СУМЛЕННЯ



*Рыгор Кастусёў*

… Рыгор Кастусёў. Ён быў адным з самых нечаканых кандыдатаў на прэзідэнта на беларускіх мінулых выбарах – па розных меркаваннях. Па тым, у прыватнасці, што прырода ўзнагародзіла сп.Рыгора нейкай іншай харызмай, чым той, якая як правіла ўласцівая палітыкам. Ён стаўся і адным з самых незаштампаваных кандыдатаў па сваіх прылюдных паводзінах і праявах у часе кампаніі. Ні на адно выступленне перад людзьмі на вуліцы ці ў студыі тэлебачання сп. Рыгор не выходзіў без яркага абрамлення ў выглядзе бел-чырвона-белага сцяга, а то і не аднаго. Ён гаварыў усюды і выключна на беларускай мове. Ён пазіцыяніраваў сябе як адкрыты непрызнанец расейскага ўплыву і расейскага ж удзелу ў беларускіх справах. Ён выяўляўся як трывалы і надзейны галава сваёй немалой сям'і, якая, жывучы ў горадзе, усімі каранямі сваімі і па сёння трымаецца за родную вёску і за родную, яшчэ матуліну, хату на ёй. Ён быў адзіным сярод кандыдатаў, які меў працоўна-палітычную біяграфію, у нечым падобную на біяграфію дзеючага кіраўніка краіны, што яшчэ больш падмацоўвалася тым, што і былі яны з аднаго, Шклоўскага, раёна… Нічога аднак не дапамагло на тых выбарах. А што можа здарыцца на гэтых?!..

*- Навошта ідзеце на выбары, вынік якіх усім (і вам самому) загаддзя вядомы?*

- Так, нам усім вядомы вынікі прадстаячай выбарчай кампаніі. Дэпутаты ПП, як звычайна, будуць прызначаны. Але для Партыі БНФ удзел у выбарчай кампаніі – гэта магчымасць для актывізацыі працы з насельніцтвам. Партыя БНФ праз вылучэнне кандыдатаў і іхны ўдзел у кампаніі імкнецца данесці, і будзе рабіць гэта настойліва і разнастайна, да грамадзян Беларусі сваё бачанне сітуацыі, якая ёсць у краіне, будзе выкладаць свае прапановы па вываду краіны з палітычнага і эканамічнага крызісу. Партыя і ўсе мы, хто прыме ўдзел у кампаніі, скарыстаем яе як нагоду для інфармацыйнай працы з насельніцтвам. Такім чынам, як гаворыцца, сачыце за падзеямі. Удзел у бягучай парламенцкай кампаніі – гэта яшчэ і адзін з этапаў падрыхтоўкі да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года.

*- Як вы ацэньваеце сваю рэальную папулярнасць у рэгіёне? Чым можаце яе пацвердзіць?*


*(Заканчэнне на стар. 2)*


## НУЖНО ГОТОВИТЬСЯ К ОЧЕРЕДНОМУ ФИНАНСОВОМУ ОБВАЛУ




Один экономист смог довольно образно объяснить, почему коммунистическая система проиграла экономическое соревнование с капитализмом. По его словам, в СССР не было зарплат в точном понимании этого слова. Советские граждане ждали в конце месяца не зарплату, а получку. Деньги не зарабатывались, их получали от государства. Соответственно, у людей отсутствовали стимулы к развитию, система загнивала, что и вылилось, в конце концов, в махровый застой брежневизма.

То же самое происходит сейчас в современной Беларуси. Но наши белорусские получки отличаются, кроме всего прочего, тем, что люди не верят и в сам белорусский рубль. Советские рубли всё-таки чего-то стоили, а доверие к белорусскому рублю серьёзно подорвано. Достаточно сказать, что в структуре банковских вкладов (рублёвых и валютных) на валютные вклады приходится сегодня две трети депозитов. Несколько лет


*(Окончание на стр. 3)*

# ВЫБАРЫ ЯК ПАРТЫЙНАЯ ЗАДАЧА І ЯК УЛАСНАЯ ПРАЦА ДУШЫ І СУМЛЕННЯ




*(Заканчэнне. Пач. на стар. 1)*

- Я планую вылучаюся па Шклоўскай акрузе, якая ўключае ў сябе Шклоўскі, Бялыніцкі, Круглянскі раёны, а таксама часткі Магілёўскага раёна і г.Магілёва. Гэта ўжо не першы мой удзел у выбарах, таму маё імя добра вядома выбаршчыкам. Акрамя гэтага мая папулярнасць узмацняецца тым, што я нарадзіўся ў Бялыніцкім раёне і адпрацаваў тут на пасадах галоўнага інжынера і дырэктара саўгаса 9 год. З 1991 года я пражываю і працую ў Шклове, больш за 6 год адпрацаваў тут на пасадзе кіраўніка раённага аб'яднання ЖКГ. Пасля майго звальнення у 2001 годзе, хачу падкрэсліць — па палітычных матывах, за наступныя 10 год ужо 3 дырэктары Шклоўскага ЖКГ пакінулі гэтую ж пасаду працу па прычынах, якія звязаны са службовымі злоўжываннямі. Двое з іх былі нават асуджаны… Людзі гэта таксама знаюць і ўлічваюць.

*- Відаць, вы пачулі нямала папрокаў і прамых абвінавачванняў і партыі БНФ, і вас асабіста за дзеянні і паводзіны напярэдадні, у час і асабліва пасля падзей Плошчы-2010. Ёсць сярод іх справядлівыя, якія можаце прыняць і на партыю, і на сябе?*

- Шмат каму не падабалася, што Партыя БНФ прымала ўдзел у прэзідэнцкай выбарчай кампаніі як самастойная палітычная сіла. Адсюль і шмат якія нападкі на нас, як прыхаваныя, так і адкрытыя. Але ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах 2010 года, упершыню за апошнія 16 год, значна паспрыяў павышэнню папулярнасці і вядомасці нашай Партыі. На гэта станоўча паўплывалі добра арганізаваная інфармацыйная кампанія і шматлікія сустрэчы кандыдата і чальцоў каманды з выбаршчыкамі ў разнастайных рэгіёнах краіны. Шкада якраз, што мы запозна прынялі рашэнне аб самастойным фармаце ўдзелу ў гэтай кампаніі. А запознены старт прывёў да некаторых памылак і недахопаў. Мы прааналізавалі іх на Сойме, мы не хавалі іх ад нашых сябраў. Свае пралікі я таксама прааналізаваў сам і з дапамогай бліжэйшых паплечнікаў, сябраў, нават і родных… Скажу толькі, што сумленне маё чыстае, хаця моманты на самой Плошчы і ў часе затрымання на ёй і ў першыя допыты ў КДБ былі цяжкімі і няпростымі. Самае цяжкае – не было ніякай інфармацыі пра рэальнае развіццё падзей. Заставалася толькі арыентавацца на сваю перакананасць і веру ў паплечнікаў і сяброў. Адсюль, лічу, і памылак гэтых было не так і шмат, бо каманда кандыдата Партыі БНФ працавала на тых выбарах, як будзе рабіць гэта і на гэтых, грунтуючыся выключна на маральных каштоўнасцях. Гэтыя каштоўнасці былі захаваны і пасля выбарчай кампаніі. А дарэчы, пасля падзей на Плошчы менавіта выбарчы штаб БНФ першым актыўна ўключыўся ў справу салідарнасці з асуджанымі і рэпрасаванымі.

*- А ўсё ж у грамадстве такое адчуванне, што аўтарытэт і папулярнасць БНФ год ад году слабее і стушоўваецца. Ясна, што гэта вымагае глыбокага вывучэння і аналізу. А так вось, наўскідку – не скажаце чаму гэта адбываецца?*

- Аўтарытэт і папулярнасць любой палітычнай арганізацыі, у тым ліку і БНФ, здабываецца толькі праз настойлівую, разумную, цяжкую і карпатлівую працу з насельніцтвам. На жаль, на працягу 16 год Партыя БНФ не прымала ўдзелу ў прэзідэнцкіх кампаніях як самастойная палітычная сіла. А гэта і прывяло да таго, што пра БНФ пачалі забываць. Але у апошнія тры гады назіраецца працэс падвышэння вядомасці і аўтарытэта Партыі БНФ. Тое, што на нас з розных бакоў цяпер пачалі часцей нападаць, і ёсць лепшым сведчаннем таго, што гэты працэс ідзе ў правільным кірунку.

*- Што будзеце лічыць прыстойным вынікам удзелу ў выбарчай кампаніі для сябе, і для партыі?*

- Ідучы на парламенцкія выбары, мы ўсведамляем, што, як такіх – паўтаруся — выбараў у Беларусі няма. Мы ўключаемся ў гэтую выбарчую кампанію толькі з той мэтай, каб скарыстаць яе як легальную магчымасць для працы з насельніцтвам, каб данесці да грамадзян нашу пазіцыю. Менавіта, праца з насельніцтвам і паспрыяе ўзрастанню аўтарытэта і папулярнасці Партыі БНФ. Вяртанне ўзроўню папулярнасці БНФ, якім ён быў напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, і будзе самым прыстойным вынікам нашага ўдзелу ў выбарчай кампаніі.

***Гутарыў Віктар Войт***

## Спиртное тянет на дно

За неделю в Могилёвской области утонули 18 человек, сообщает ТРК "Могилёв". 14 из них в момент трагедии были пьяны.

Трагедий могло быть и больше. Сотрудники ОСВОД спасли из воды 17 человек, в том числе – 6 детей. Примечательно, что один из несовершеннолетних также оказался нетрезв! В Могилеве 16-летний подросток, находясь в состоянии алкогольного опьянения, пытался переплыть Печерское озеро. К счастью, спасатели успели раньше, чем молодой человек пошел ко дну.

# НУЖНО ГОТОВИТЬСЯ К ОЧЕРЕДНОМУ ФИНАНСОВОМУ ОБВАЛУ



(Оконч. Начало на стр. 1)

назад это соотношение было обратным — 60% вкладов держалось в рублях. К тому же доверчивых вкладчиков, верящих в устойчивость государственных финансов, становится всё меньше. Люди забирают свои денежные накопления, так как больше не верят в способность государства сохранить их.

Бывших вкладчиков можно понять, ведь расходы на жизнь становятся всё более обременительными. Сейчас три четверти организаций, которых учитывает официальная статистика, имеют зарплату до 3 млн. рублей. Наиболее распространённая зарплата в регионах — 2-2,5 млн. рублей. К тому же в реальном выражении эти номинальные миллионы по сравнению с прошлым годом даже «усохли». Как свидетельствуют данные Белстата, за январь-май текущего года только в четырёх районах Могилёвской области реальная зарплата осталась на прошлогоднем уровне. Во всех остальных районах по сравнению с прошлым годом она снизилась.

В связи с этим отметим, что на днях портал interfax.by проанализировал последние предложения, размещенные в Общереспубликанском банке вакансий. В июле месяце из почти 29 тыс. вакансий только в 11 указана зарплата не менее $1 тыс. Это около 0,04% от общего числа. «Знаковые» $500 и больше в качестве зарплаты предлагаются в 788 вакансиях (2,7%). В то же время число вакансий с зарплатой до $200 составляет более 36% от общего количества. А в регионах, говоря проще, в глубинке положение намного хуже. К примеру, в Климовичском районе по состоянию на 5 июля подавляющая часть имеющихся свободных вакансий (130 из 163 вакансий) предусматривает зарплату до двух млн. руб. А каждая четвёртая — в пределах полтора миллиона рублей!

Неужто власти, вновь взявшие на вооружение лозунг о достижении 500-долларовой зарплаты, не знают этого? Можно не сомневаться, что в ситуации они разбираются и соответствующей информацией владеют. Поэтому, прекрасно понимая, что обещанных в преддверии выборов высоких зарплат наша экономика дать не в состоянии, Правительство вновь запустило печатный станок. Всего за полгода общая денежная масса в Беларуси выросла до 134 триллионов рублей (рост почти на 21%), а объём наличных денег в обращении увеличился за то же время на 41%. А это означает, что в ближайшем будущем белорусское общество будет вынуждено снова пережить очередной финансовый обвал, всплеск цен и ещё большее обнищание. К сожалению, будет именно так, и не говорите потом, что вас не предупреждали.

***Александр ВЛАД***

## ЗАРОБАК 500 ДОЛАРАЎ І БОЛЬШ МАЮЦЬ АМАЛЬ 11% БЕЛАРУСАЎ

Альбо каля 362 тысяч чалавек.

Гэтыя звесткі на травень 2012 года апублікаваў Нацыянальны статыстычны камітэт.

Амаль палова гэтых людзей працуюць у Мінску, яшчэ 14% — у Гомельскай вобласці, па 8% — у Брэсцкай і Віцебскай абласцях, па 7% — у Магілёўскай і Мінскай абласцях, 5% — у Гродзенскай вобласці.

Паводле статыстычных дадзеных, заробак ніжэйшы за налічаны па краіне (у траўні ён дасягнуў 3,56 млн рублёў) маюць як мінімум 48% працуючых беларусаў, адзначае сайт onliner.by.

## Завод "Вяйнянская крыніца" зачыняецца

З канца ліпеня пачалася працэдура ліквідацыі завода.

Былыя работнікі "Вяйнянскай крыніцы" ўжо ўладкаваліся на іншыя заводы Магілёва, паведамляе тэлерадыёкампанія "Магілёў".

Заснавальнікамі прадпрыемства з'яўляліся фірма "Вейна" і "Магілёўхімвалакно". Завод быў уведзены ў эксплуатацыю ў 1994 годзе і вырабляў безалкагольныя і слабаалкагольныя напоі. Разліваў ён таксама і мінеральную ваду.

Зношанае абсталяванне і неэфектыўнае ўпраўленне прадпрыемствам прывялі яго да поўнага банкруцтва.

## Отстегнул жизнь

28 июля в 11:10 в Могилёвском районе 34-летний могилевчанин, управляя автомобилем «Опель», не справился с управлением. Он выехал на обочину и опрокинулся, причинив себе смертельную травму.

Водитель попавшего в аварию автомобиля мог выжить, если бы заранее пристегнулся ремнем безопасности. Таково мнение экспертов о дорожно-транспортном происшествии у деревни Толпечицы Могилевского района.

*ВЫБАРЫ-2012*

# ХОЦІМСК: КІРАЎНІКА ІНІЦЫЯТЫЎНАЙ ГРУПЫ НЕЗАЛЕЖНАГА ВЫЛУЧЭНЦА ЗВАЛЬНЯЮЦЬ З ПРАЦЫ



*Пётр Басейка*

Адміністрацыя хоцімскага жылкамгаса 24 ліпеня ўручыла вартаўніку Пятру Басейку пісьмовае апавяшчэнне пра тое, што бліжэйшым часам ён будзе звольнены з працы “у сувязі са сканчэннем тэрміну кантракту”. Мясцовы актывіст кампаніі “Гавары праўду” ў бягучай выбарчай кампаніі ачоліў ініцыятыўную групу па зборы подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты Валерыя Каранкевіча.

“Днямі да мяне на працоўнае месца прыйшла начальнік аддзела кадраў нашага прадпрыемства і прынесла паперу з папярэджаннем, што я буду звольнены ў сувязі са сканчэннем тэрміна кантракту, то бок праз тры тыдні, - распавядае Пётр Басейка. – Падпісваць паперу, што папярэджаны, я адмовіўся, бо лічу, што адміністрацыя павінна была папярэдзіць мяне аб тым, што са мной не будзе працягнуты кантракт, за два месяцы. Я працую вартаўніком у жылкамгасе і ніколі ніякіх заўвагаў і спагнанняў за сваю працу з боку адміністрацыі не меў. Лічу, што такім чынам са мной проста разабраліся за тое, што я актыўна працую ў перадвыбарчым штабе незалежнага прэтэндэнта ў кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Валерыя Каранкевіча, займаюся зборам подпісаў за яго вылучэнне ў кандыдаты. Цісніуць на мяне бескарысна, але жыць жа неяк трэба, давядзецца ехаць на заробкі ў Расію”.

Прэтэндэнт у кандыдаты ад кампаніі “Гавары праўду” Валерый Каранкевіч кажа, што ў Хоцімску працягваецца ціск з боку супрацоўнікаў мясцовага райвыканкама на сябраў яго ініцыятыўнай групы і выбаршчыкаў.

“Адбыліся гутаркі на працы яшчэ з трыма сябрамі ўжо новага складу ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў за маё вылучэнне, на іх ціснулі вельмі жорстка, - кажа Валерый Каранкевіч. – Людзей запужалі, і яны кажуць, маўляў, прабач, Валерый Міхайлавіч, мы цябе падтрымліваем, але подпісы актыўна збіраць не будзем, бо выганюць з працы і мы яе ў раёне больш не знойдзем. Пры зборы подпісаў шмат хто з выбаршчыкаў кажа, што іх папярэджвалі на працы, каб за Каранкевіча не падпісваліся ні ў якім выпадку, бо будуць вялікія праблемы. Пра што казаць, калі да нас дайшла інфармацыя, што ўчора на планёрцы ў старшыні Хоцімскага райвыканкама старшыняў сельсаветаў папярэдзілі, каб яны так арганізавалі працу з людзьмі на сваіх тэрыторыях, каб падпісантаў за Каранкевіча не было. Па гэтым будуць ацэньваць іх працу. Пра гэта нам распавялі самі ўдзельнікі гэтай планёркі”.

Аднак, нягледзячы на ўвесь гэты ціск, каманда Каранкевіча збіраецца працягваць працу і ўпэўненая, што збярэ патрэбную колькасць подпісаў. Разам з тым актывісты не выключаюць, што ім давядзецца змяніць тактыку і больш увагі надаваць працы ў Крычаўскім і Клімавіцкім раёнах.

*Іван Барысаў*

## ЧАГО ВАРТА ЧАКАЦЬ АД БЫХАЎСКАЙ АКРУГОВАЙ КАМІСІІ?



*Сяргей Антонаў*

Сваімі прагнозамі на гэты конт падзяліўся прэтэндэнт у кандыдаты па Быхаўскай выбарчай акрузе № 81 пісьменнік і журналіст Сяргей Антонаў.

Прааналізаваўшы асабісты склад сфармаванай акруговай камісіі, ён канстатуе, што яе аснову складаюць людзі, якія ўжо шмат гадоў забяспечваюць патрэбны вынік на “выбарах.

“На першым паседжанні камісіі яе старшынёй абраны кіраўнік аддзела ідэалагічнай працы райвыканкама Дзмітрый Ігнацьеў, - кажа Сяргей Антонаў. - Можна адзначыць толькі адно: камісія адрозніваецца непарушнай стабільнасцю і архаічнасцю. Асноўныя яе сябры займаліся “выбарамі” ледзь не з брэжнеўскіх часоў і валодаюць несумнеўным талентам ператвараць волевыяўленне выбарнікаў у нешта падобнае да масавага гуляння…

У той час, як кандыдатуры назіральнікаў ад апазіцыі часта адхіляліся з-за пенсійнага ўзросту, быхаўскі пенсіянер Ігнацьеў паспяхова прайшоў адбор. Інакш і быць не магло. Справа ў тым, што ўлады пакуль не здолелі выхаваць ідэолагаў, роўных

*(Заканчэнне на стар. 5)*

## ЧАГО ВАРТА ЧАКАЦЬ АД БЫХАЎСКАЙ АКРУГОВАЙ КАМІСІІ?

(Заканч. Пачатак на стар. 4)

прафесіяналам старой, яшчэ камуністычнай школы. Вось і даводзіцца з года ў год усаджваць на чале выбарчага “стала” нязменнага “тамаду”, які мітусіўся на старонках раённай газеты ў тыя былінныя часы, калі большасць цяперашніх кандыдатаў яшчэ пад стол пешшу хадзіла.

Такім чынам, чакаць ад Быхаўскай акруговай камісіі, якая курыруе цяперашнія выбары ў Быхаўскім, Касцюковіцкім, Слаўгарадскім і Краснапольскім раёнах, чагосьці новенькага не даводзіцца”.

Сяргей Антонаў збіраецца вылучацца кандыдатам у дэпутаты па Быхаўскай выбарчай акрузе ад партыі БНФ, сябрам якой з’яўляецца больш за 15 гадоў. У якасці прэтэндэнта ў склад акруговай камісіі па Быхаўскай выбарчай акрузе № 81 ад партыі БНФ прапаноўвалася кандыдатура Уладзіміра Папкова, аднак у камісію яго не ўключылі, як і наогул усіх іншых прэтэндэнтаў ад партыі БНФ у Магілёўскай вобласці. У камісію Быхаўскай акругі № 81 увайшлі толькі прадстаўнікі праўладных арганізацый і адной палітычнай партыі – Камуністычнай партыі Беларусі.

***Сяргей Семяновіч***

## ІНФЛЯЦЫЯ АД ПАЧАТКУ ГОДА — 11,9%

У Беларусі спажывецкія цэны за 24 дня ліпеня выраслі ў параўнанні з сярэднімі цэнамі чэрвеня на 1,3%.

Ад пачатку года спажывецкія кошты ў Беларусі па стане на 24 ліпеня выраслі на 11,9%.

Пра гэта паведамляе Інтэрфакс са спасылкай на Белстат.

Паводле прагнозу Міністэрства эканомікі на 2012 год, урад мае намер утрымаць інфляцыю ў межах 19-22%.

# ЗА ПРАЎЛАДНАГА КАНДЫДАТА Ў ШКЛОЎСКАЙ ВЫБАРЧАЙ АКРУЗЕ ПОДПІСЫ ЗБІРАЮЦЬ ПА ЗАГАДЗЕ




У Шклоўскай выбарчай акрузе № 90 зарэгістраваныя дзве ініцыятыўныя групы па зборы подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Гэта група намесніка старшыні Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі Аляксандра Агеева і група сябра Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Аляксандра Ірхо.

Ініцыятыўныя групы па вылучэнні апазіцыйнага кандыдата Аляксандра Ірхо зарэгістраваная яшчэ ў дзевяці выбарчых акругах Магілёўскай вобласці. На тэрыторыі Шклоўскай выбарчай акругі № 90 група гэтага прэтэндэнта зборам подпісаў пакуль не займалася.

Тым часам сябры ініцыятыўнай групы Аляксандра Агеева (а гэта прадстаўнікі самых розных дзяржаўных арганізацый і ўстаноў) ужо актыўна працуюць. Аднак многія з іх пра свайго вылучэнца ведаюць зусім няшмат. Як сказала адна з сябраў ініцыятыўнай групы Агеева, ёй загадалі на працы сабраць у падтрымку свайго прэтэндэнта не менш за 150 подпісаў, у іншым выпадку ў яе могуць узнікнуць праблемы.

Сам шасцідзесяцігадовы Аляксандр Агееў, які пакуль працуе намеснікам старшыні КДК, перад пачаткам кампаніі папрысутнічаў на паседжаннях усіх райвыканкамаў сваёй выбарчай акругі. Кіраўнікі мясцовай вертыкалі загадалі сваім падначаленым, кіраўнікам арганізацый і прадпрыемстваў, максімальна садзейнічаць высокаму чыноўніку. Дарэчы, яшчэ амаль два месяцы таму бялыніцкая незалежная газета “Паходня” паведаміла пра тое, што дэпутатам Палаты прадстаўнікоў па Шклоўскай выбарчай акрузе будзе менавіта Аляксандр Агееў. Такую інфармацыю карэспандэнт выдання атрымаў з сваіх крыніцаў у мясцовай вертыкалі.

Чакаецца, што яшчэ два кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў па Шклоўскай выбарчай акрузе № 90 будуць вылучаны на партыйных з’ездах. Жаданне паўдзельнічаць у выбарчай кампаніі выказалі намеснік старшыні партыі БНФ жыхар Шклова Рыгор Кастусёў і прадстаўніца Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Зінаіда Мялешчанка з гарадскога пасёлка Круглае. Па неафіцыйнай інфармацыі, па гэтай акрузе шляхам партыйнага вылучэння на выбары збіраецца ісці і адзін з прадстаўнікоў ліберальна-дэмакратычнай партыі.

***Віктар Баравікоў***

# МЕДВЕДИКИ ИЗ ВДВ



После десанта 4 июля 2012 года на белорусскую землю спецотряда шведских игрушек-медведиков государственные управленческие структуры охватил ступор. Как так: граница еще 3 июля была на замке (сам Президент сказал), а утром следующего дня иностранный самолет беспрепятственно долетел до Минска, рассеивая на своем пути игрушечных медведей. А ведь могли разбрасывать и гранаты. Военные сразу отмели факт нарушения границы. "Это была стопроцентная провокация против Беларуси при поддержке иностранных спецслужб. Наши средства ВВС и ПВО не подтвердили нарушения воздушного пространства неизвестным самолетом", - заявил генерал-майор Дмитрий Пахмелкин - командующий ВВС и войсками ПВО Вооруженных сил Беларуси. Правда, 26-го июля сам Александр Григорьевич опроверг своего «боевого» генерала и подтвердил, что самолёт прилетал и шведский «медвежий десант» был. Как говорится, без комментариев…«Силовики» же… за переход границы в Минске арестовали журналиста Антона Суряпина с перспективой до 7 лет заключения, который всего лишь разместил в сети фотографии полета шведского самолета. Антон является студентом института журналистики Белорусского госуниверситета, куда поступить можно только после собеседования на лояльность к режиму. Выходит, не срабатывает система отбора. Пострадал и Сергей Башаримов, который имел неосторожность сдать квартиру будущим участникам акции. Действия белорусских спецслужб, по мнению сотрудника шведской Studio Total Мазетти, лишь подтверждают, что шведский самолет все-таки пересек незамеченным белорусское воздушное пространство, хотя Минобороны продолжало уверять, что никакого полета не было. Томас Мазетти, который вместе со своей коллегой Ханной Линой Фрей управлял самолетом во время полета над Беларусью, заявил, что целью дерзкой акции была «поддержка независимых белорусских СМИ и политзаключённых».

Аресты по данному поводу оценил, как дикость – ведь «с таким же эффектом можно теперь арестовать бармена, который продал нам пиво в Минске». Но если и наказывать кого в Беларуси по делу о медвежьем «десанте», так нужно начинать с сотрудников КГБ. Во-первых, недосмотрели на стадии подготовки к акции, при том, что Томас Мазетти в Минске был и пиво пил; во-вторых, именно действия КГБ развенчали миф о «границе на замке» (министерство обороны настаивает на ее нерушимости до сих пор); своими действиями «кэгэбэшники» подтвердили факт наличия межведомственной борьбы, несмотря на авторитетную точку зрения Президента об успехах в военном строительстве. Арестовать (и немедленно) директора китайской фабрики игрушек (у нас все китайское) по аналогии с действиями против руководства фирмы, выпускающей сок «Садочак», в упаковке которого находилось взрывчатое вещество в центре Минска во время празднования очередного Дня Независимости, во время которого Президенту представилась возможность геройски себя проявить. Неплохо бы отправить в отставку министра обороны и его полгенштаба, председателя КГБ, начальника милиции в Ивенце (вот, кто, оказывается, недосмотрел в бинокль), комиссовать за профнепригодность рядовых бойцов погранзаставы, которые не уследили. Чтобы неповадно было.

Беда в авторитарном государстве одна не ходит. Через неделю удрал за границу спецназовец капитан гродненской милиции Сергей Макар и разразился интересными интервью по

*(Начало. Продолж на стр. 7)*

# МЕДВЕДИКИ ИЗ ВДВ

*(Продолж. Начало на стр.6)*

поводу нашей (прости, господи) милицейской действительности. Он подробно рассказал журналистам о политическом сыске в МВД, недоверии милиционеров к власти и о фальсификациях бюллетеней незрячих инвалидов, военнослужащих и студентов колледжей. Кроме того, брат Сергея Игорь Макар, бывший сотрудник спецназа, живописал отношение сотрудников правоохранительных органов к Президенту. В частности, он считает, что 80% силовиков против всенародно избранного. «Когда я работал в «Алмазе», во время того, как Лукашенко выступал – с него все смеялись, как с Жириновского. Вот реально смешно было! Все говорили: колхозник - и до сих пор так говорят», – рассказывает политбеженец Игорь Макар. Связи с друзьями он не теряет и знает все новости силовиков: «В последнее время в КГБ создан социально-аналитический отдел, в который входят 15 человек, которые занимаются именно этой сферой. Их проблема - это оппозиция. Полностью на людей поднимают различные фотоснимки, чуть ли не отпечатки пальцев. И создан сразу же второй отдел активного и пассивного прослушивания. У этих отделов есть разрешение без информирования высшего начальства слушать всех, кого захотят». Есть ли в силовых органах люди, готовые поддержать народ, если тот будет сражаться против режима? «Если народ примет решение, и эта волна пойдет, волна вот этого негатива на власть, 80% сотрудников милиции, правоохранительных органов, внутренних войск поддержат граждан с условием того, что они будут просто уверены в своем будущем», - уверен Игорь Макар.

«Силовики» не должны простаивать в своей работе, а постоянно хоть кого арестовывать. Ежедневно мы узнаем о тех несчастных чиновниках, которые брали «не по чину». Неважно где, но особый интерес вызывают два города: Минск и Шклов. В столице арестован первый заместитель мэра (это ж сколько нужно было запросить!), очередь за Шкловом.




Мы не говорим о 14 политзаключенных и суете вокруг них – позор в 21 веке еще тот, жизнь подбрасывает примеры иного порядка. В том же Минске продолжают задерживать активистов антиядерной кампании, которые собирались передать обращение российскому премьеру Медведеву. Утром 18 июля были задержаны активисты белорусской антиядерной кампании — координатор кампании Татьяна Новикова (штраф) и российский физик-ядерщик Андрей Ожаровский (сутки). В милицию попали координатор мониторинговой группы Центра правовой трансформации Михаил Мацкевич и председатель правления ОО “Экодом” Ирина Сухий, которые также понесли заслуженное наказание. Эти примеры говорят, что белорусскому обществу не то что расслабляться, реже дышать нужно с осторожностью – вдруг инопланетяне над синеокой пролетят без согласования с главнокомандующим, который, похоже, ответственность за происшедшее разделять не желает. Да что там какие-то неопознанные летающие аппараты! Бдительность нужна нашим чиновникам ежедневно (а теперь и еженощно) и во всех уголках синеокой. 20 июля мне пришлось сопровождать независимых “телевизионщиков”, которые заинтересовались новым мостом в Шклове, параллельно снимали гренадера, а потом перешли к “огурцу” и памятнику Зоричу. Буквально через 10 минут съемок к группе подошел начальник идеологического отдела райисполкома С. Артамонов с комплектом вопросов. Когда провели съемку возле “огурца”, подошел лейтенант милиции практически с тем же набором вопросов - “Вы кто?”, “Кто давал разрешение на съемку?”, “Где можно посмотреть материал?”. Хозяева жизни, блин, ни понятия о Конституции и законах, самими же и придуманных, ни понимания гротескности происходящего. Как решить проблемы в

*(Окончание на стр. 8)*

## МЕДВЕДИКИ ИЗ ВДВ

*(Оконч. Начало на стр. 6, 7)*

жилищно-коммунальном хозяйстве, разобраться с водоснабжением в конкретно взятом случае, так ни ума, ни действий. Но как только на горизонте замаячит что-то угрожающее вольготной жизни бездельников из властных структур, то эти структуры возникают, как джинны из кувшина. Создается впечатление, что они вездесущи, всёзнающи, неисчислимы. Впрочем, зайдите в райисполком и по поводу неисчислимости догадка подтвердится. Забывают только эти “идеологи”, что кормить их почему-то должен рядовой шкловчанин, который и живет-то не всегда в достатке, и структуры райисполкомовские которому нужны для решения конкретных проблем. Реакция местных властей на средства массовой информации закономерна, но ведь 21 век на календаре и такая убогость в его восприятия настораживает- а что будет завтра?

Нелегкая жизнь бдительных силовиков продолжается. А мы подождем еще какого-нибудь происшествия, характеризующего боеготовность нашей потешной армии. И, впрямь, создается впечатление, что она только для парадов и существует. Вместе с генералами (с их боевыми орденами), которые пороху точно не понюхают на миролюбивой белорусской земле.

***А.Стекловский***

## У Быхаўскім раёне міліцыянты разагналі летнік сацыял-дэмакратаў

У Быхаўскім раёне на турбазе Магілёўскага металургічнага заводу супрацоўнікі міліцыі пагрозамі вымусілі згарнуць летнік, які арганізавалі «Маладыя сацыял-дэмакраты» і «Маладая грамада».

Пра гэта 30 ліпеня паведаміла адна з арганізатарак Юлія Міцкевіч. Сярод удзельнікаў былі і замежнікі — расейцы й француз.

Паводле спадарыні Міцкевіч, на турбазе каля пяцідзесяці чалавек меліся прабыць тыдзень. Са слоў актывісткі, усе фінансавыя пытаньні былі вырашаныя з уладальнікам турбазы загадзя.

## У МАГІЛЁВЕ РАСПРАВІЛІСЯ З ФАТОГРАФАМ МАРГАРЫНАВЫХ РЭКАЎ

***Уладзімір Трызуноў***

Адміністрацыя хлебазаводу звольніла працаўніка, які сфатаграфаваў парушэнне санітарных нормаў на прадпрыемстве.

Некалькі тыдняў таму грузчык магілёўскага хлебазаводу № 4, сябар партыі БНФ Уладзімір Трызуноў сфатаграфаваў, а потым апублікаваў у інтэрнэце фота таго, як захоўваецца на прадпрыемстве маргарын, з якога пякуць слодыч. Работнік паведаміў, што маргарынавая катастрофа цягнулася некалькі тыдняў і была выкліканая глупствам кіраўніцтва, якое закупіла працьму маргарыну для печыва, але не змагло захаваць яго ў спёку.

Талы маргарын цёк па падлозе цэху, дзе вырабляецца печыва. Кіраўніцтва набыло інгрэдыент для мучных вырабаў у настолькі вялікай колькасці, што немагчыма было датрымаць умоваў і тэрмінаў захавання. На хлебазаводзе толькі дзве лядоўні. І маргарын, які туды не змясціўся, пачаў таяць.

На прадпрыемстве вырашылі замарожваць маргарын па чарзе: адна партыя застывала, пакуль другая смажылася на спёцы, а потым наадварот. Але гэта не дало плёну. Працаўнікі збіралі талае рэчыва ў чопы, у бочкі, а потым выкарыстоўвалі для вырабу печыва.

“На жаль, санстанцыя пра гэтае здарэнне не ведае, аднак вельмі б хацелася, каб яна завітала на прадпрыемства. Таксама хочацца, каб кіраўнікі адказалі за сваю некампетэнтнасць, былі пакараныя і звольненыя з працы. Чаму з-за іх глупства рабочыя мусяць цярпець і выконваць лішнюю працу? А калі маргарын сапсаваўся, то людзі ж могуць і атруціцца! Асабліва ў гэтым выпадку хвалююся за малых дзяцей”, – напісаў тады Трызуноў, звярнуўшыся ў газету “Наш Магілёў”.

Пакаралі, аднак, не кіраўнікоў, а звычайнага рабочага, які не пабаяўся выказацца супраць “расхлябанасці” начальства.

Уладзімір Трызуноў адпрацаваў на прадпрыемстве чатыры месяцы. Афіцыйная прычына звальнення – прагул.

***belsat.eu***



магілёўскі Выбар

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі

Адрас рэдакцыі: Магілёўская воб, аг-к В. Машчаніца, вул. Савецкая, д.4. Тэл. 8 - 0259 204 308, e-mail: Boris152@gmail.com. Выдавец Міхайлаў Іван Барысавіч. Наклад: 299 асобнікаў, фармат А-4. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 01.08.2012 г. у 11-00.